# Наступны нумар газэты выйдзе ў жніўні

http://navinki.net

НАВІНКІ

27 чэрвеня - 3 ліпеня 2002 №14(63) Кошт свабодны

Гэта ж ня муха, гэта цэлы сьлепень! Кыш адсюль, разносчык бацылы камунізму і дыктатуры, гэта мой біфштэкс!

Б-з-з...

Аддзяліце ж нарэшце мух ад катлет!

## 120 год



Янку Купалу

Якубу Коласу

Дзе чэрпалі творчае натхненьне славутыя беларускія мінэстрэлі? Эксклюзіўнае расьсьледаваньне на стар.8.

## Ад рэдакцыі

### Шаноўныя сябры!

Рэдакцыя газэты *Навінкі* зь ліпеня выходзіць у заслужаны адпачынак. Пасьля цяжкіх працоўных будняў мы вырашылі папарыць свае косткі на берагах Коста дэль Нарач. Дзякуй усім, хто ўвесь гэты час застаецца з намі. Паведамляем вам, што наступны нумар нашай газэты выйдзе напрыканцы жніўня.

16 ліпеня адбудзецца афіцыйнае адкрыцьцё сайту газэты *Навінкі* па адрасу:

**www.navinki.net**






Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Падпісны індэкс **63439**. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@ring.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 27.06.2002г., а 23.59. Тыраж 3000 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у друкарні ТДА «Знаменіе», г. Менск, вул. Кальварыйская, 24. Заказ №68

## *Навінкі ў тЭстах*

### Ці ў курсе вы апошніх падзеяў?

**1.З кім сустрэўся А.Лукашэнка ў Віскулях 27 чэрвеня?**
А) З Барысам Ельцыным
Б) Зь Леанідам Краўчуком
В) Са Станіславам Шушкевічам

**2.Каму павысіў зарплату ў 3,5 разы прэзыдэнт Расеі У.Пуцін?**
А) Настаўнікам
Б) Мэдыкам
В) Сабе

**3.Хто сабраўся ў канадзкім горадзе Калгары каб вырашыць сусьветныя эканамічныя праблемы?**
А) Вялікая васьмёрка
Б) Беларускі ўрад у выгнаньні
В) Рэдакцыя газэты *Навінкі*

**4.Які апэратар сотавай сувязі стандарту GSM пачаў работу ў Беларусі?**
А) МТС
Б) БПС
В) ВВС

**5.Па якім календары будзе адзначацца 3 ліпеня Дзень незалежнасьці Рэспублікі Беларусь?**
А) Па афіцыйным
Б) Па апазыцыйным
В) Па грэгарыянскім

**6.Зь якога ўзросту дзярждума Расеі дазволіла ўступаць у шлюб жанчынам?**
А) З бальзакаўскага
Б) З нараджэньня
В) З 14 гадоў

**7.У якім балі ўзяў удзел А.Лукашэнка 28 чэрвеня?**
А) У апошнім
Б) У выпускным
В) У балі-маскарадзе

**8.Ад чаго пацярпелі рэгіёны Паўночнага Каўказу?**
А) Ад паводкі
Б) Ад водкі
В) Ад спэцапэрацыяў

**9.За што міністэрства друку Расеі хоча забараніць газэту *Лимонка?***
А) За распальваньне міжнацыянальнай варожасьці
Б) За назву
В) За Эдзічку

**10.У якой зоне павінны месьціцца юрыдычныя асобы каб атрымаць падатковыя ільготы згодна апошняму дэкрэту прэзыдэнта?**
А) У афшорнай
Б) У памежнай
В) У чарнобыльскай

**11.Курс якой валюты ўпаў за апошні тыдзень да рэкорднай адзнакі?**
А) Зайца
Б) Даляру
В) Эўра

**12.Што такое АНТ, якое зьявілася ў Беларусі з 25 чэрвеня?**
А) Алкашы, Наркоты, Тарчкі
Б) Атрад Нацыянальнага Тэрору
В) АгульнаНацыянальнае тэлебачаньне

**13.Каго выратоўвае паўднёваафрыканскае судна Agulhas ў ільдах Антарктыды?**
А) Пінгвінаў
Б) Вадалазаў
В) Расейскіх палярнікаў

**14. Якое сьвята адзначаюць амэрыканцы 4 ліпеня?**
А) Дзень перамогі
Б) Дзень незалежнасьці
В) Купальле

Правільныя адказы: 1-А, 2-В, 3-А, 4-А, 5-А, 6-В, 7-Б, 8-А, 9-А, 10-В, 11-Б, 12-В, 13-В, 14-Б.

# Опіюм для народу

### *Палата прадстаўнікоў прыняла новы закон*




ПП НС РБ ізноў парадавала нас чарговым шэдэўрам законатворчай думкі. Не пасьпелі сьціхнуць жарсьці пасьля прыняцьця законаў аб амністыі і аб дзяржаўных сакрэтах, як 27 чэрвеня большасьцю галасоў быў прыняты ў другім чытаньні законапраект «Аб свабодзе веравызнаньняў і рэлігійных аб'яднаньнях». Вакол гэтага законапраекту было шмат спрэчак. Гэтак званыя дэмакраты называюць яго таталітарным і нават фашысцкім. А дэпутатка-яблычніца Вольга Абрамава ў знак пратэсту нават пакінула залю перад галасаваньнем. Што ж так абурыла прадстаўнікоў розных рэлігійных канфэсіяў? Справа ў тым, што паводле новага закону грамадзянам Беларусі забараняецца зьбірацца разам для малітваў па месцы жыхарства, калі яны не зарэгіструюць рэлігійную грамаду. Грамада можа быць зарганізаваная «з ініцыятывы ня менш як 20 грамадзянаў Беларусі, якія дасягнулі 18-гадовага ўзросту». А ўсе функцыі (выданьне друкаванай прадукцыі, заснаваньне духоўных місіяў і г.д.) перадаюцца рэлігійнаму аб'яднаньню, для стварэньня якога неабходныя 10 рэлігійных грамадаў, што існуюць на тэрыторыі Беларусі ня менш за 20 гадоў. Такім чынам, ніякім крышнаітам, адвэнтыстам ды іншым рэгістрацыі ня бачыць як сваіх вушэй. Не гаворачы ўжо пра Севярынцавы сходкі, што праходзяць штачацьвер на Варвашэні-8, а самому яму будзе пагражаць тэрмін за незаконную місіянэрскую дзейнасьць. Не ўдаецца засадзіць за палітыку, пасадзяць за божыя справы. А пратэставаць няма сэнсу, боісьцінна сказана: «Усялякая ўлада ад Бога».

**Пратапоп Авакум**

МЭЙЛ ДАВЕРУ:

## Стучыце

*– і вас пачуюць...*

**ШАНОЎНЫЯ ПАЛІТЫКІ!**

Калі Вы маеце пэўныя факты і матэрыялы пра сваіх канкурэнтаў, што могуць падкурвіць іхнай палітычнай кар'еры або проста выставяць іх у камічным сьвятле – пішыце на наш мэйл даверу kampramat@tut.by, і

**ПРА ГЭТА ДАВЕДАЕЦЦА ЎСЯ КРАІНА!**

Калі ласка, абавязкова і дакладна пазначайце наступную інфармацыю: з кім, калі, дзе і пры якіх абставінах адбыўся адпаведны выпадак. Найбольш скандальныя матэрыялы будуць надрукаваныя на старонках газэты *Навінкі.*

**КАНФІДЭНЦЫЙНАСЬЦЬ КРЫНІЦАЎ ГАРАНТУЕМ!**




# *Хімія, хімія...*

Вось і скончылася эпапея з судовым разьбіральніцтвам над галоўным рэдактарам газэты «Пагоня» Міколам Маркевічам і журналістам Паўлам Мажэйкам. Першы атрымаў два з паловай, а другі – два гады пазбаўленьня волі. Але як бы каму ні хацелася, на зону яны не патрапяць. І не таму, што яны крутыя аўтарытэты, за якіх заступілася сусьветная грамадзкасьць. Дзяржава бярэ на ўзбраеньне новыя мэтады барацьбы з палітычнымі апанэнтамі. Замест таго, каб карміць лайдакоў, што сядзяць на нарах ды забіваюць «казла», лепей уляпіць ім «хімію» па самыя памідоры ды вылічваць з зарплаты працэнты ў бюджэт. Да таго ж і Захаду няма да чаго дачапіцца: чалавек не за кратамі, значыцца не палітвязень.

«Ці ня робіць наша судовая сыстэма вялікую памылку? – спытае прыхільнік палітычнай стабільнасьці. – Якую карысьць могуць прынесьці сваёй працай два інцелягенты?» Але тут дзяржава не памыляецца. Так, рукамі працаваць яны ня ўмеюць, толькі й навучыліся, што газэту друкаваць. Але закінь гэтых журналістаў на зону, дык яны адразу ж пачнуць ціскаць якую-небудзь газэту пад назвай «Пабег», ды будуць праводзіць палітагітацыю сярод урканоў. А хваляваньні на зоне – гэта вам ня мітынг на Бангалор. Але адвакаты падсудных не зьбіраюцца здавацца. Яны маюць намер падаць апэляцыю ў вышэйшую інстанцыю. Вось тут і трэба ня спаць у шапку. Суд не павінен паддавацца на ўгаворы адвакатаў, ніякай зоны! «Хімія» – і кропка!

# Пакараньне плоці грэшнай

## Навінкі пэнітэнцыярнай сыстэмы

Сацыяльнаму наватарству беларускай дзяржавы апошнім часам пазайздросьцілі б Кампанэла, Оўэн і сібірскі экакамунар Вісарыён разам узятыя. Празь месяц пасьля трыюмфальнай інаўгурацыі сталічнага «Дому міласэрнасьці», у Магілёве адчыніўся першы ў краіне «арыштны дом». Калі першы гмах – інкарнацыя новай сацыяльнай палітыкі, то гэтая ўстанова – навінка сьвежага крымінальна-выканаўчага кодэксу. Гуляць у мандавошку на кубак камэры і сёрбаць чыфір у падобных дамах будуць злачынныя пэрсанажы, асуджаныя да арышту на тэрмін да шасьці месяцаў. У адпаведнасьці з новым кодэксам, пакараньне такога тыпу – прывілей дробных дэлінквэнтаў. Калі вы наўмысна заразілі трыперам ці хламідыёзам вашага сябра, альбо пагражалі яму распраўай, альбо прадалі яго ў бардэль, альбо нанесьлі яму цялесныя пашкоджаньні, альбо, будучы мэдыкам, раскрылі ўрачэбную тайну і расказалі ўсім па п'яні пра ягоны энурэз, альбо, на худы канец, насадзілі ягоную трох-шаснаццаці-гадовую ўнучку без выкарыстаньня гвалту, альбо, нарэшце, узьвялі паклёп на прэзыдэнта ў газэце *Пагоня* і «хімію», як Маркевічу і Мажэйку, вам атрымаць не пашанцавала – вас паводле закону могуць адправіць на перавыхаваньне ў «арыштны дом». Пэдагагічную альфу і амэгу гэтага пэнітэнцыярнага новаўвядзеньня на ўрачыстым адкрыцьці «дому» раскрыў сам міністар унутраных справаў У.Навумаў: «Рэжым утрыманьня тут больш суровы, чым у выпраўленчай калёніі. За кароткі час у гэткіх экстрэмальных умовах немагчыма не ўсьвядоміць садзеяннага і не зрабіць патрэбныя высновы...» Яшчэ адна характарыстыка «арыштнага дому» – акцэнт на максымальную ізаляцыю асуджанага ад усіх зьнешніх раздражняльнікаў, уключаючы абмежаваньні на сустрэчы, прагулкі, кантакт з прыродай і сьвежым паветрам. Як паэтычна ў стылі Дэ Сада ахарактарызавала гэты мэтад сацыяльнай пэдагогікі Алена Юшкевіч зь міліцэйскага друкаванага органу *На страже*: «Ні травінкі, ні кветкі, ні дунавеньня ветру. Толькі неба». Такім чынам, філязофія «арыштнага дому» базуецца на старажытным тэзысу аб неабходнасьці ўмяртвленьня грэшнай плоці, якая ёсьць крыніца ўсіх саблазнаў. Чым больш дробнае злачынства, тым больш шанцаў на выпраўленьне таго, хто аступіўся, і тым болей інтэнсіўным павінна быць узьдзеяньне на злачынныя імпульсы плоці. У пэрспэктыве, пры гарманічным разьвіцьці новага Крымінальна-выканаўчага кодэксу, пакараньне дробнакалібэрных крымінальнікаў па-беларуску абавязкова павінна ўключаць і іншыя формы цялеснай карэкцыі, багаты досьвед якой назапашаны за многія стагодзьдзі. А калі беларускія юрысты і праваахоўнікі здолеюць скрыжаваць векавыя традыцыі катаваньня з сучаснымі тэхналёгіямі і ЭВМ навукова-вытворчага аб'яднаньня «Інтэграл», злачынствы *Пагоні* і *Рабочага* назаўсёды застануцца ў гісторыі



*У якасьці пакараньня акрамя арыштных дамоў можна выкарыстоўваць г. зв. ганебныя знакі, напрыклад, кітайскую кангу*

**Мікола Піцерскі**

## *КампАнія*

### Рэзананс

Нечакана хутка скончылася г.зв. «Кампанія салідарнасьці зь беларускімі палітэмігрантамі», інфармацыйную падтрымку якой аказвала рэдакцыя газэты Навінкі. Дзякуючы нашым чытачам, што адгукнуліся на трывожныя сыгналы з Прагі (падрабязнасьці гл. у *Навінках* №12 і 13) і даслалі свае пратэсты на адрас Пасольства Чэскай Рэспублікі ў Менску, справа атрымала шырокі міжнародны рэзананс. Аднак паштовая атака на чэскае пасольства – не адзінае, што рыхтавалі арганізатары «Кампаніі...». Меркавалася правесьці і пікетаваньне будынку пасольства. На дзіва, Менгарвыканкам даволі праворна даў дазвол на правядзеньне пікету, але, вядома, на плошчы Бангалор. Пагроза пікету і магчымасьць наданьня справе скандальнага характару ў беларускіх СМІ вымусіла супрацоўнікаў чэскага пасольства шукаць кантактаў для перамоваў з арганізатарамі «Кампаніі...».
Пасланцом добрай волі між Пасольствам Чэхіі і арганізатарамі «Кампаніі...» выступіў галоўны рэдактар газэты *Навінкі*, які сустрэўся з часовым паверaным у справах Чэскай Рэспублікі. На сустрэчы часовы паверaны паведаміў, што пратэст прыняты да ўвагі афіцыйнай Прагай. Дабіўшыся ўвагі да сваёй акцыі, арганізатары «Кампаніі...» палічылі, што мэта «Кампаніі...» дасягнутая і адмовіліся ад правядзеньня пікету, шчыра дзякуючы ўсім, хто падтрымаў гэтую ініцыятыву.

# Афэра веку

## *У Расеі зноў аб'явілася Вялікая князёўна Анастасія Раманава*

Гісторыя, якая распачалася ў 1918 годзе ў іпацьеўскім доме, скончацца, здаецца, не зьбіраецца, а наадварот набірае абароты з кожным дзесяцігодзьдзем. Дачок апошняга расейскага імпэратара-пакутніка Мікалая Раманава, «вялікіх князёўнаў Анастасіяў», сьвет ведаў каля 30 штук. Усе яны цудам выратаваліся ад бальшавіцкага ката Юроўскага, рознымі шляхамі ўцяклі ў Эўропу і ўсе як адна жадалі царскіх грошай, што ляжаць залатым грузам на рахунках заходніх банкаў.
На гэты раз косткі бабкі Насты прывезьлі з Грузіі, дзе яна нібыта хавалася ад чырвонага тэрору пад імем Натальлі Пятроўны Біліходзэ разам са сваім венцаносным бацькам Раманавым-Бярозкіным (так-так, бальшавіцкія людажэры, аказваецца, не расстралялі царскую фамілію, а схавалі яе ў Каўкаскіх хрыбтах).
Наваяўленая князёўна Анастасія, якой ужо ідзе 102-гі год, квітнее і пахне і мае намер ня толькі вярнуць высакароднае імя сабе, але і царскія мільярды ўсяму народу Расеі. «Царскі отпрыск» ужо прапанаваў расейскаму прэзыдэнту зьдзелку стагодзьдзя, адмахнуцца ад якой таварыш прэзыдэнт РФ Пуцін наўрад ці здолее, хаця яшчэ трымаецца (не сустрэўся ж з бабкай Настай, як плянавалася!).
Мэта місіі сп. «Раманавай» – ня проста хапнуць грошай, а «выканаць волю дынастыі Раманавых па адраджэньні Расеі праз вяртаньне сродкаў расейскай дзяржаўнасьці і царскай сям'і». «І здарыцца гэта толькі пры ўласным на тое жаданьні сп.Пуціна», – заяўляе бабка Наста. Карацей кажучы, незьлічоныя грошы за тытул і, фактычна, прызнаньне права на прэстол.
Народ Расеі затаіў дыхалку, чакаючы рашэньня прэзыдэнта, бо бабкі няхілыя – больш за 30 мільярдаў даляраў. Гэта калі разьдзяліць на ўвесь расейскі народ, то атрымаецца па 200 баксаў на морду. А можна інакш: Пуціну – мільярд баксаў (усё ж такі прэзыдэнт), Міжрэгіянальнаму грамадзкаму дабрачыннаму хрысціянскаму фонду Вялікай княжны Анастасіі, што апякуецца бабулькай – па 100 тысяч грыноў на душу (за тое, што на кожным вуглу будуць сьведчыць пра «настаяшчасьць» Анастасіі), ну і мільярдзік можна разьдзяліць паміж астатняй мелюзгой, якая тым ці




іншым чынам прычасьцілася да прызнаньня бабкі Насты Вялікай князёўнай Анастасіяй Мікалаеўнай Раманавай.
Такім чынам, на месцы расейскіх чыноў я б ня доўга думаў і хутчэй бы заняўся дапамогай у выкананьні сьветлай місіі сп. Раманавай, пакуль грошы яшчэ не падзеленыя. Адзінага, чаго трэба сьцерагчыся «асобе блакітных крывей», дык гэта Іосіфа Сталіна, які, магчыма, таксама не памёр, а спакойна хаваецца сабе недзе ў гарах ●

**Рыгор Распуцін**

**P.S.** Калі нумар ужо здаваўся ў друк, супрацоўнік газэты *Навінкі* Ўлад Пятнік раптам адчуў сябе Цэсарэвічам Аляксеем. Зараз ён піша мэмуары і вельмі прагне сустрэцца зь любай сястрычкай Настачкай.

# Газэтны дэфолт

## Хто насамрэч душыць свабоду слова ў Беларусі?

Колькі наездаў было на бацьку, нібыта ў Беларусі прыціскаецца свабода слова, зачыняюцца газэты, зьнікаюць журналісты й г.д. Так, варта прызнаць, што пад гэтымі абвінавачаньнямі ёсьць крыху праўды. Аднак цяпер у Лукашэнкі зьявіўся ў руках моцны козыр.
Напярэдадні новага грантавага сэзону, шэраг беларускіх апазыцыйных газэт апынуліся ў поўным сэнсе ля разьбітага карыта. Адчыніўшы неяк з раніцы свае паштовыя скрыні, галоўныя рэдактары *Рабочага, Беларускай Маладзёжнай* і інш. знайшлі ліст ад Джорджа Буша прыкладна з такім тэкстам: «Дзякую за працу, але патрэбу ў вашых паслугах больш ня маем...» Сваім рашэньнем адмовіць у фінансавай падтрымцы некаторым беларускім газэтам, амэрыканскія фонды фактычна паставілі крыж на дзясятку выданьняў.
Ні для кога не сакрэт, што супрацоўнікі шэрагу газэт проста халтурылі на працоўным месцы, цалкам забіўшы на амэрыканскія стратэгічныя інтарэсы ва Ўсходняй Эўропе. Рэдакцыі загрузьлі ў брудзе, пустой піўной тары й газэтнай макулятуры.
Аднак факт застаецца фактам: Лукашэнка зачыніў усяго тры незалежныя газэты: *Свабоду, Навіны* і *Пагоню.* А цяпер задайцеся пытаньнем, колькі беларускіх газэт зачыніў Буш і вырашыце, хто сапраўды зьяўляецца ворагам свабоды слова ў Беларусі ●

**Хуга Хэфнэр**






# Таворыць Скаруліс...



**(Агляд беларускай аналітыкі палітэмігрантам зь лягеру ўцекачоў у Бэльгіі)**

Неяк падумаў я, што не зусім правільна аналізую нашых калюмністаў. Бо аб чым я пішу? Пераказваю трызьненьні нашых камароў пяра. Але ці можна ўсур'ёз аналізаваць іх зьмест? Можна. Галоўнае – знайсьці правільную мэтадалёгію. Так бы мовіць, стаць на цьвёрды падмурак навукі.
Дык вось, скачаў я з Інтэрнэту артыкулы за апошні тыдзень, перавёў іх у тэкставы фармат WORD і вырашыў праверыць правапіс. Калі які калдыр ня ведае як, то адмыслова для нашых аналітыкаў тлумачу – гэта клявіша F7. А ў той кампутарнай праграме ёсьць такая функцыя – статыстыка зручнасьці чытаньня. Менавіта яна падказвае, якія хібы перашкаджаюць аўтару заваёўваць сэрцы чытачоў.
Галоўных парамэтраў – толькі чатыры. Узровень адукацыі паказвае, хто ва ўнівэрсытэце сапраўды вучыўся, а хто замест наведваньня пар у чэргах да бліжэйшага піўняку тусаваўся. Лёгкасьць чытаньня – наколькі нашыя калюмністы блізкія да народу. Колькасьць складаных фраз – наколькі яны валодаюць граматыкай. Нарэшце, мілагучнасьць.
Паводле гэтых парамэтраў я й прааналізаваў артыкулы за апошні тыдзень. Вось вынікі.

| Калюмніст | Узровень адукацыі (1-20) | Лёгкасьць чытаньня (%) | Колькасьць складаных фразаў (%) | Мілагучнасьць (%) |
|---|---|---|---|---|
| І.Халіп (*БДГ* 21.06.02) | 5,1 | 85,8 | 1,7 | 90,7 |
| А.Бяляцкі (*НН* 21.06.02) | 5,2 | 22,7 | 8,3 | 89,4 |
| А.Грыцанаў (*БГ* 24.06.02) | 11,4 | 64 | 3,7 | 89,5 |
| П.Якубовіч (*СБ* 25.06.02) | 10,6 | 67,8 | 0 | 90,3 |
| Т.Сулімава (*СБ* 22.06.02) | 8,1 | 76,8 | 2,1 | 91,2 |

Што ж атрымалася? Па-першае, кідаецца ў вочы слабая інтэлектуальная падрыхтоўка нашых апазыцыйных калюмністаў. Адзін Грыцанаў разумнейшы за Халіп і Бяляцкага разам узятых. Пра апошняга ўвогуле размова асобная. Ці то ён сапраўды такі алігафрэн (амаль па ўсіх паказчыках замыкае сьпіс), ці то кампутар памыляецца? Але кампутар – рэч бесстароньняя, яна аб'ектыўна фіксуе, што *Нашай Ніве* тэрмінова трэба шукаць новага калюмніста. А то ў хуткім часе тры тысячы накладу будуць ім падавацца залатым векам іх выданьня.
Магчыма, кампанію Бяляцкаму маглі б скласьці калюмністы з *Нашай Свабоды* (*Палітыка*) Павал Жук ды Кастусь Тарасаў, якія ня раз ужо даводзілі сваю поўную адмарожанасьць. Але гэтыя сачкі каторы тыдзень не аднаўляюць свой сайт у Інтэрнэце й такім чынам пазьбеглі незалежнай творчай экспэртызы.
Сярод іншага хочаца адзначыць за лёгкасьць чытаньня нашых бляндынак. Як пісаў О'Генры, ёсьць рэчы, якія створаныя, каб быць разам: напрыклад, смажаніна й цыбуля, ірляндцы й беспарадкі. Ад сябе дадам: чэлес і дзявочая похва, бэльгійскія іміграцыйныя ўлады й безпраходная тупасьць. Відаць, бляндынкі й лёгкасьць таксама цудоўным чынам зьвязаныя паміж сабою.
Нарэшце, варта адзначыць магутны тандэм з *Саўбелкі* – Якубовіч і Сулімава. Па большасьці парамэтраў яны лідэры рэйтынгу. Яшчэ б дзьве-тры такіх сулімавых у дзяржаўных выданьнях, і Адміністрацыя прэзыдэнта можа спаць спакойна – рэжым будзе непераможны, а ідэалягічны кантроль над масамі поўны. Так што парада Латыпаву: ганіце ў шыю розных там казіятак і зімоўскіх, пільней прыглядайцеся да бляндынак! Я, напрыклад, толькі на іх і гляджу ●

**Арсень Скаруліс,**
былы адвакат

ТЭМА

# Чарнобыльскі

Напрыканцы чэрвеня і ў пачатку ліпеня беларусы зноў узгадваюць ВАВ. Прычына афіцыйна-традыцыйная. 22.06 – Дзень усенароднай памяці і смутку, прысьвечаны дэбюту нямецка-савецкага бліцкрыгу. 3.07 – Дзень рэспублікі, што прыўрочаны да даты вызваленьня Менску ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сёлета, аднак, гісторыя Другой сусьветнай вайны павінна была б выклікаць асаблівую цікавасьць абарыгенаў рэспублікі-партызанкі. Яна дапамагае нам па-іншаму зірнуць на яшчэ адну этнатворную гістарычную трагедыю беларусаў: Чарнобыль. Бо, як вядома, сучасная нацыянальная самаідэнтыфікацыя грамадзян РБ пакоіцца на двух гіганцкіх кашалотах: мардабоі нацысцкай акупацыі («Беларусь – гэта краіна, дзе ў вайну загінуў кожны чацьвёрты») і душагубцы мірнай радыяцыі («Беларусь – гэта краіна, якая найбольш пацярпела ад атамнай аварыі»). Да таго ж, сымболіка абодвух катаклізмаў шмат у чым сходная.

Як дагэтуль уяўляўся беларусамі Чарнобыль? Нацыянальнай трагедыяй, што навалілася звонку на маленькі народзец, які на сваёй тэрыторыі ня мае ніводнай атамнай станцыі. Прывіды мёртвых гарадоў, інфэрнальных мутантаў і лысых дзецяў пад кропельніцай, анэкдоты пра чарнобыльскага вожыка сталі часткай міжнароднага іміджу Беларусі, ахвярнаму насельніцтву якой цяпер увесь сьвет павінен спачуваць і башляць.

Open Your Mind! – кажа беларусам «міжнародная супольнасьць» у асобе Сусьветнага банку, прапануючы нам вызваліць сваю сьвядомасьць. Пару тыдняў таму СБ падагнаў спэцыяльную праграму (гл. Отчет №23883-BY. БЕЛАРУСЬ: Обзор последствий аварии на ЧАЭС и программ по их преодолению. Проект отчета для обсуждения с правительством.), прыняцьце рэкамэндацыяў якой беларускім урадам стане нашай палкай-выручалкай ад чарнобыльскага сындрому. Каб радыяцыя больш не псавала нэрвы жыхарам РБ (а заадно і «міжнароднай грамадзкасьці», МАГАТЭ, Siemens і інш.), неабходна проста перастаць разглядаць Чарнобыль як «экалягічную катастрофу» і адмовіцца «ад тых праграмаў, якія ствараюць мэнталітэт ахвяры і ўтрымальніцкай залежнасьці» (п.XIII).

Спачатку нам трэба перагледзець вядомыя дадзеныя аб мэдычных наступствах аварыі згодна з падлікамі «міжнародных экспэртаў» (праўда, толькі тых, хто цесна зьвязаны з МАГАТЭ, мэта якога, як вядома, – спрыяць разьвіцьцю «мірнага атаму» праз падрыманьне рэпутацыі «бясшкоднасьці» апошняга). Затым прапануецца бязьлітасным цесаком абрэзаць дзяржаўныя выдаткі на сацыяльную абарону насельніцтва «зоны», сьмялей вяртаць у эксплюатацыю сельскагаспадарчыя і прыродныя рэсурсы забруджаных тэрыторыяў. А каб абарыгены не залупаліся, Банкам распрацаваныя праграмы правільнага інфармаваньня і масавага выкарыстаньня антыдэпрэсантаў у асяродзьдзі «радыяфобаў».

Праграма Сусьветнага банку мае ўсе шанцы прыйсьціся даспадобы беларускаму Камчарнобылю і ўраду, бо дае яму доўгачаканае маральнае алібі для скарачэньня ільготаў і іншых сацыяльных гарантыяў «чарнобыльцаў» (і ня толькі!), якія валуном вісяць на карку дэфіцытнага бюджэту РБ. Да таго ж можна атрымаць крэдыты на гаспадарчую «рэабілітацыю» зоны, якую ўжо й так актыўна праводзіць мудрае кіраўніцтва рэспублікі.

Ня трэба ілюзіяў, аднак. Рэвізія наступстваў Чарнобылю з мэтай «рэабілітацыі» забруджаных тэрыторыяў толькі напалову пазбавіць нас ад мэнталітэту ныцікаў. Для поўнай псыхатэрапіі нацыі неабходны гуманітарны праект, які б вызваліў беларусаў ад яшчэ аднаго «комплексу ахвяры», што вынікае з гіпэртрафаванай памяці пра Другую сусьветную вайну. Для гэтага можна было б зруйнаваць у хаўно Гатынскі мэмарыял, Трасьцянец і перш за ўсё выкрыць стэрэатып аб Халакосьце – стрыжні, на якім сядзіць байка пра Другую сусьветную.

Сусьветнаму банку ня трэба нічога вынаходзіць. Гэткая дабрачынная праграма існуе. Яна завецца «рэвізіянізмам Халакосту». Узьніклае адразу пасьля вайны ў асяродзьдзі заходніх нэанацыстаў і іншых дабрадзеяў, «інфармаваньне насельніцтва» гэтага кшталту засноўваецца на мінімізацыі наступстваў ці простым адмаўленьні існаваньня фашысцкага генацыду яўрэяў і ім падобных «недачалавекаў» з мэтай рэабілітацыі нацыянал-сацыялізму. На гэту тэматыку, шматлікія бэстсэлеры пад назвамі кшталту «Шесть миллионов потеряны – и найдены», «Великая ложь XX века» і да т.п. зьяўляюцца стылістычнымі эквівалентамі дакладу №23883-BY Сусьветнага банку. Аўтары-рэвізіяністы (швайцарац Амадруз у канцы 40-х, французы Расінье – у 50-я, Дзюпра, Фарысон, амэрыканцы Бутс, Барнс, Гарвуд і Тэйлар – у 60-80-я гады, а таксама Прэсак, Флемінг, Ірвінг, Мантаньё і Граф ў 90-х і сёньня), падобна чарнобыльскім экспэртам НКДАР, ПРООН і Сусьветнага банку, распрацавалі стройную навукападобную тэорыю з мноствам лічбаў, згодна зь якой г.зв. Халакост – шкодны міт, які стварае ў асобных сэміта-хаміцкіх этнасаў «комплекс ахвяры». Такім чынам, пры супастаўленьні, рыторыка «рэвізіяністаў Халакосту» выдатна пасуе да дыскурсу Сусьветнага Банку адносна Чарнобылю. Для прыкладу, аб'яднаем «чарнобыльскую зону» зь «лягерам сьмерці», яе жыхароў – зь вязьнямі Асьвенціму і Трасьцянца, а цытаты з праграмаў Сусьветнага банкў параўнаем з асноўнымі тэзысамі нэанацысцкіх рэвізіяністаў. Што з гэтага кактэйлю атрымалася, няхай чытач мяркуе сам.




## Асноўныя тэзысы нэанацысцкага рэвізіянізму

**1.Існуе арганізаваная сыянісцкая змова, мэта якой – фабрыкаваць доказы масавага зьнішчэньня жыдоў, каб стварыць сусьветнаму яўрэйству фінансава і палітычна выгодны «імідж ахвяры»;**

**2.Ахвяры нацызму і г.зв. выжыўшыя вязьні нацысцкіх «лягераў сьмерці» ілгуць альбо груба перабольшваюць, калі распавядаюць пра жахі Халакосту;**

 



# рэвізіянізм




3.Яўрэі, якія пацярпелі ад нацыстаў самі заслужылі сваё пакараньне, бо няправільна сябе паводзілі, скрозь былі партызанамі, бальшавікамі і тым самым правакавалі немцаў на антысэміцкія рэпрэсіі;
4.Колькасьць загінуўшых яўрэяў, калі генацыд увогуле іскаваў, значна забольшаная. З 6 млн. быццам бы «зьніклых» эўрапейскіх жыдоў, як мінімум 3 млн. проста ўцяклі на Ўсход;
5.Нацысцкая Нямеччына не нясе галоўнай адказнасьці за сьмяротнасьць яўрэяў падчас Другой сусьветнай вайны. Асноўнай прычынай сьмерці (у тым ліку ў канцэнтрацыйных лягерах) быў не нацысцкі генацыд, а камуністы (у Бабіным Яры быццам бы не фашысты зьнішчалі яўрэяў, а НКВДэшнікі – «патрыётаў»), эпідэмія тыфусу (якая сапраўды лютавала падчас вайны) і г.д.;
6.Той факт, што бальшавікі і саюзьнікі самі зьдзейсьнілі шмат масавых забойстваў мірных жыхароў (перад вайной альбо падчас яе) дазваляе казаць аб неапраўдана разьдзьмутым значэньні нацысцкіх злачынстваў у параўнаньні зь іншымі;
7.Г.зв. «газавыя камэры» нават тэхнічна не маглі выкарыстоўвацца для зьнішчэньня людзей. Яны ўсталёўваліся выключна для дэзынфэкцыі адзеньня жыхароў лягераў. Вошы і іншыя паразыты былі адзінымі ахвярамі газавых камэраў.

## Асноўныя тэзысы чарнобыльскага рэвізіянізму

1.Імідж «ахвяры катастрофы» штучна створаны дзеля атрыманьня фінансавых выгодаў некаторымі групамі насельніцтва: «Празьмерны акцэнт на сацыяльную дапамогу спрыяў узьнікненьню «мэнталітэту ахвяры» і ўтрымальніцкай залежнасьці ад дзяржаўнай падтрымкі» (Беларусь: обзор последствий аварии на ЧАЭС и программ по их преодолению, 2002, п.VII); «Сярэдні ўзровень успамогі па нагляду за дзіцём у Беларусі значна вышэйшы за памер мінімальнага заробку, што, магчыма, стварае ў насельніцтва ўтрымальніцкія адносіны да ўспамогаў і пазбаўляе яго стымулаў да працы. Некаторыя шматдзетныя сем'і, магчыма, зацікаўленыя ў далейшым пражываньні ў забруджаных раёнах і атрыманьні выгодаў ад шматлікіх сацыяльных ільготаў. Напрыклад, у шэрагу пацярпелых ад чарнобыльскай катастрофы раёнаў назіраецца больш высокі рост нараджальнасьці, чым у сярэднім па рэспубліцы:» (Тамсама, п.114)
2.Ня трэба верыць сьведчаньням і страхам чарнобыльцаў, яны альбо карысьліва ілгуць альбо памыляюцца: «Мяркуючы па ўсім, зараз вельмі проста атрымаць пасьведчаньне пацярпелага ад аварыі на ЧАЭС» (Тамсама, п.61); «Нягледзячы на тое, што праблемы са здароўем на забруджаных тэрыторыях у асноўным ідэнтычныя праблемам са здароўем у астатніх раёнах рэспублікі, насельніцтва як у саміх пацярпелых раёнах, гэтак і за іх межамі, цьвёрда ўпэўненае, што радыяцыя аказвае нэгатыўнае ўзьдзеяньне на стан іхнага здароўя:» (Тамсама, п. V)
3.Чарнобыльцы самі вінаватыя ў сваіх хваробах, бо іхныя праблемы абумоўленыя няправільным ладам жыцьця ахвяраў, а ня ўзьдзеяньнем уласна радыяцыі: «Асноўнымі прычынамі праблемаў са здароўем (у пацярпелых раёнах) зьяўляюцца дрэннае харчаваньне і лад жыцьця, а менавіта ўжываньне алькаголю і паленьне.» (Тамсама, п.28)
4.Страты, нанесеныя Беларусі аварыяй на ЧАЭС, значна завышаныя рэспубліканскімі ўладамі: «Не ўяўляецца магчымым высьветліць, якая частка ацэначных stratаў (ад аварыі на ЧАЭС) прыходзіцца на рэальныя фінансавыя выдаткі, якая частка прыходзіцца на страты ў вытворчасьці і прадукцыйнасьці, а колькі прыходзіцца на зьнешнія і схаваныя выдаткі. Калі гаворка ідзе аб схаваных выдатках, ня ясна, ці мелі яны месца ў рэчаіснасьці, улічваючы структуру эканомікі ў дадзены момант. і сапраўды, многія ацэначныя дадзеныя могуць быць пастаўленыя пад сумнеў і іхная дакладнасьць можа быць аспрэчанай. Місія (Сусьветнага Банку) не змагла ўстанавіць поўнае эканамічнае абгрунтаваньне разьлікаў і схільная лічыць, што некаторыя з гэтых лічбаў могуць быць істотна завышаны». (Обзор стратегии РБ в области охраны окружающей среды, 2001, п.258)
5.Прычына росту захворваньняў чарнобыльцаў палягае збольшага не ў самой радыяцыі, а ў дэпрэсіі ці іншых нерадыяцыйных фактарах хваравітасьці тубыльцаў: «Псыхалягічныя расстройствы зьяўляюцца адной з найбольш важных прычынаў узьнікненьня захворваньняў сярод насельніцтва, пацярпелага ад чарнобыльскай аварыі...» (Беларусь: обзор последствий аварии на ЧАЭС и программ по их преодолению, п.140); «Выказаная мэдыкамі заклапочанасьць адносна спэцыфічных мэдыцынскіх наступстваў, якія быццам бы абумоўленыя радыяактыўным апраменьваньнем альбо ў пэрыяд пасьля аварыі (а менавіта прыроджаныя анамаліі ў новanароджаных) альбо ў параўнаньні зь перадаварыйнай сытуацыяй, у цэлым не былі падмацаваныя статыстычнымі дадзенымі, а засноўваліся на суб'ектыўна ўспрыманых тэндэнцыях» (Тамсама, дадатак 3, вытрымкі з дакладу ПРООН/ЮНІСЭФ/ОСНА (2001)); «Таксама няма навукова абгрунтаваных доказаў росту іншых формаў неанкалягічных паталёгіяў, зьвязаных з іянізуючым выпраменьваньнем» (Тамсама, дадатак 3, вытрымкі з дакладу НКДАР-2000)
6.Узроўні радыяактыўнага апраменьваньня ў зоне перасяленьня неапраўдана разьдзьмутыя, бо зьяўляюцца фактычна не настолькі высокімі ў параўнаньні з натуральным фонам радыяцыі, які назіраецца ў шэрагу населеных рэгіёнаў сьвету: «Урад прыпыніў дзеяньне некаторых артыкулаў закону «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпелых ад аварыі на ЧАЭС»(...). Гэтае часовае рашэньне неабходна зрабіць пастаянным, унёсшы папраўкі ў закон. Акрамя таго, можна скасаваць і некаторыя іншыя ўспамогі. Узровень радыяцыі, які не перавышае 1мЗв/год, лічыцца адносна нізкім і ў якасьці натуральнага радыяцыйнага фону зьяўляецца звычайным для многіх частак Эўропы...» (Тамсама, п. 210)
7.Згодна з аналізам стану флёры і фаўны, праведзенага Банкам у 2001 годзе, нават у 30-кілямэтровай зоне адчужэньня няма доказаў непасрэднага радыяцыйнага паражэньня буйных млекакормячых (да якіх, дарэчы, адносіцца і чалавек): «Найбольш пацярпелі хвойныя пароды і дробныя млекакормячыя» (Тамсама, п.15) ●



 

# Наркаманы, уцякайце!

## Роў матораў і гітар супраць наркаты?

У Магілёве рэспубліканская акцыя «Сьпірт супраць наркотыкаў» распачалася рок-канцэртам, арганізаваным мясцовым аддзелам культуры і БПСМам насупраць будынку КДБ. Не чытаўшы абвесткі ўвогуле цяжка было зразумець, што за імпрэза там адбывалася. Прысутнічала пераважна правільная моладзь, якую нефармалы абзываюць «гопнікамі». Патлатых нефармалаў было прыкладана столькі ж, колькі ментоў і кадэбэшнікаў. Натоўп стаяў, як муміі, нібы на ўрачыстым сходзе. Ані скокаў ані танцаў.

– Да-а, тут хаерам не патрасеш, – заўважыў адзін з прысутных, зьбіраючыся дахаты на пачатку канцэрта. Ля мікрафону хлопчык у чорнай майцы угаворваў натоўп не паліць сёньня траўку і ня кідацца пустымі бутэлькамі.

– Во, пабясіцца дажа не даюць! Канцэрт называецца, – выказаў сваю думку якісь мэталюга.

Каля сцэны нехта прыпаркаваў свае матацыклы. На маё пытаньне, што яны тут робяць, пачуўся адказ:

– Ты, што БТ ня смотрыш? Пацаны на іх сядут і паедут.

– Якія пацаны?

– Тыя, што возьле сцэны стаят.

Тымчасам канцэрт працягваўся.

– Выступаць будут розныя групы, друг на дружку не пахожыя,– ласкавым голасам запэўніў хлопчык у чорнай майцы. Нейкія чмыры зрабілі некалькі спроб засьпяваць песьню. На трэці раз народ ня вытрымаў.

– Баклан, са сцэны!

– Нічога ня слышна.

Песьню ўсё ж засьпявалі, але ня дужа разборліва.

– Ой, нас жа зьдесь ніхто ня знает. Давайце знакоміцца. Эта Дзіма, эта Саша, – спахапіўся адзін з музыкаў. Які гурт прадстаўляюць Дзіма з Сашам для большасьці так і засталося таямніцай. Нехта прабубнеў, ці то «Эйфарыя», ці то «Летаргія», і зазначыў, што яны выступаюць заўжды з аднолькавай праграмай. Крытычныя заўвагі наконт узроўню выкананьня музыкі, арганізацыі вечарыны разнастайнасьцю не адрозьніваліся. «Шняга! Прыкол! Лажа!» Але гэта дробязі. Галоўнае, што ў выніку акцыі наркаманы зьнікнуць з тэрыторыі Магілёва і ўсёй Беларусі. БПСМ і ўпраўленьне культуры шчыра спадзяюцца на такі фінал: відаць, гукі цяжкай музыкі і роў матацыклаў падчас мотапрабегу павінны так напалохаць людзей зь няўстойлівай псыхікай, якімі зьяўляюцца наркаманы, каб тыя разьбегліся зь перапуду ●



**Харлей Дэвідсон,**
мотааматар

## Слуцкія шлангі

**25** чэрвеня Міхась Башура вырашыў адзначыць свой дзень народзінаў прэзэнтацыяй кнігі сваіх вершаў «Паліваньне на мух са шланга». У беларускай гарадзкой літаратуры гэта ўжо другі паэт са Слуцкага раёну пасьля Зьміцера Вішнёва, таму можна сьмела падымаць тэму «Слуцкай школы» ў беларускай літаратуры і засільля «Слуцкай мафіі» на паэтычным рынку. Нельга, аднак казаць, што Міхась Башура ва ўсім сьлепа сьледуе стылю свайго куміра Вішнёва – там, дзе паэту не хапае нахабства складаць у слупок бязглуздыя словы і выдаваць гэта за паэзію, ён здольны прыслухацца да голасу ўласнага натхненьня і выдаць цалкам неблагія радкі:

*«Тралейбусы –/ трамваі –/ аўтобусы –/ горад –/ вуліцы –/ слупы –/ «слупавы востраў» – / Зьміцер Вішнёў»*

Спэцыяльна для прэзэнтацыі паэт пафарбаваўся ў жоўты колер і запрасіў бубнароў-растаманаў, каб пад гукі бубнаў пачытаць свае паэтычныя строфы. Уся гэтая дзея праходзіла ў гандлёвай залі кніжнай крамы «Падпісныя выданьні», дзе каля касы трывожна азіраўся ашалелы пакупнік з 4-хтомнікам вершаў Васіля Быкава. Гэтак пачынае свой пераможны крок паэзія XXI тысячагодзьдзя ●




## ЛІст

### Дзень моладзі на вёсцы

Паважаная рэдакцыя!

Піша вам вэтэран вайны, былы культработнік, зь вёскі Малыя Дворышчы Бабруйскага раёну. Хутка ўся наша краіна будзе сьвяткаваць Дзень моладзі. У райцэнтры, унук казаў, таксама танцы ў парку будуць. А моладзь зь непэрспэктыўных вёсак зноў пакідаюць па-за ўвагай, ніхто віншаваць іх і ня думае. Хаця ў нашай вёсцы такіх аж дзесяць чалавек! А колькі на сельсавету? А па ўсёй краіне? Яны ж здаровыя бугаі, маладыя яшчэ, па 50-60 гадоў.

Пэнсіі пазараблялі, з гораду на бацькаўшчыну павярталіся і жывуць сабе без прапіскі. Для сучаснай моладзі галоўнае культ грошай, багацьце. І гэта вельмі насьцярожвае. Яны ж засяваюць па гектару зямлі, гадуюць па чацьвёра сьвіней, робяць з лазы кошыкі пад штучныя кветкі і шпікулянтам здаюць, цягаюць зь лесу лісічкі вёдрамі!

Найбольшым аўтарытэтам сярод аднагодкаў карыстаюцца тыя, хто ўмее спрытна красьці ў калгасе, езьдзіць у горад па падробным інвалідным пасьведчаньні, гоніць самагонку на продаж.

Моладзь кучкуецца разам, адны аднаму гароды памагаюць садзіць. На бяседы разам ходзяць, выхваляюцца перад суседзямі сваёй гаспадаркай. А нас старэйшае пакаленьне не паважаюць, насьміхаюцца. Прасіў я неяк Ваську Грыба картоплю забаранаваць. А ён мне адказвае:

– Ідзі ты дзед на хер, я 'шчэ сваё не папарадчыў!

Пецька, крывой акушэркі, чын той жа саўсём бяспутны: гарэлку ў старых выдурвае, грошы пазычае і не аддае, з жывёлінаў зьдзекуецца, пакінуў сваю карову на ноч на вуліцы ды забыўся на яе. Ёсьць у нас Лідачка-Жабка, дачніца. Распусная баба. Грошы на новае вядро ад калодзежа здаваць ня хоча, таму што яе бацька на фронце загінуў. Дык яна сябе ў 58 гадоў сіроцінай лічыць. Бачыце, і ў нашых Малых Дворышчах, як той казаў духоўнасьць падае,тым больш сярод цяжкай моладзі.

Прашу, прышліце да нас на сьвята Моладзі чалавека з гэнага БПСМу. Хай нальe кожнаму па 100 грам, правядзе конкурс патрыятычнай песьні сярод моладзі. Ім гэта будзе цікавей чым гарадзкім школьнікам. Яшчэ б я быў вельмі ўдзячны, каб з маладзейшых цімураўскі атрад зрабілі, каб памагаць старым рабіць работу. А калі хто не захоча пісацца ў цімураўцы, дык няхай яму сельсавет соткі абрэжа. Бо адсутнасьць ідэалягічнай работы ў непэрспэктыўных вёсках, гэта ня толькі правал у маладзёвай палітыцы, але і дзесяткі скрадзеных скірдаў калгаснай саломы, гектары спустошаных калгасных палеткаў, выміраньне лісічак як віду.

**Безьменаў Хведар Пятровіч,**
80 гадоў

## СПРАВА ВІНАКУРАЎ

Беларусь ахінула хваля вінных справаў. Нядаўна за краты адпраўлены новы чарнідлавы кароль А.Машэй, які ўзначальваў клецкі «Агракамбінат». Камэнтуючы справу Машэя і яшчэ некалькіх дырэктараў вінных заводаў, аўтар артыкулу ў *БГ* робіць «сэнсацыйную» выснову: у краіне існуе віннае лобі (*Навінкі* пра гэта пісалі яшчэ ў №11). Вырабнікі «Васілісаў», «Крыжачкоў» і іншых зарабляюць столькі грошай, што могуць сабе дазволіць мець «крышу» ў любым міністэрстве і ўплываць амаль што не на бацьку. Гэтак, адпаведна артыкулу, дырэктар Машэй меў падвязкі ў пракуратуры, ва ўрадзе, у кіраўніцтве па справах прэзыдэнта. Што з усяго гэтага сьледуе? Тое, што чарнілы зьяўляюцца элітатворчым чыньнікам у краіне, а іх спажыўцы – звычайныя бухарыкі - ня ведаючы гэтага, трымаюць у руках рэальную ўладу. Уявіце сабе, што будзе калі яны аб'ядналюцца ў нейкі саюз спажыўцоў чарнілаў і закадзіруюцца піць на тыдзень. Наступствы будуць катастрафічнымі. Рухне адна са сваяў, на якіх трымаецца рэжым. Але ж такі варыянт вельмі фантастычны - адмовіцца ад чарнілаў нашыя п'янтосы ня змогуць. Тым ня менш рост сьвядомасьці ў іхніх колах можа цалкам зьмяніць пэйзаж беларускай палітыкі, ператварыўшы праблемы спажываньня таннага алькаголю ў адну з самых балючых тэмаў у краіне. Такія працэсы ўжо былі і адбываюцца сёньня на Захадзе: Рузвэльт у свой час перамог на выбрах, дзякуючы скасаваньню «сухога закону»; на апошніх выбарах у Францыі кандыдат сацыялістаў Жаспэн дзеля падвышэньня папулярнасьці пазыцыянаваў сябе як прыхільніка легалізацыі марыхуаны. А чым мы горш! ●

**Дон Пэрыньён**



Палітолягі ламаюць галаву над пытаньнем: Ці ператворыцца фактар таннага чарніла ў чыньнік беларускай палітыкі?

## ЛЕпшы падарУнак!

**Navinki Home Video**

**прэдстаўляют**

**СЛУЧАЙ З ПАЦАНОМ.**

Юра, нармальны пацан з раёна, сорыцца са сваёй малой. У поіске душэўнага спакойствія он рашает устроіцца как усе на работу. Аднака на пуці Юры вазьнікает прэкрасная незнакомка Насьця, акцівістка адной зь дэмакрацічэскіх арганізацый. Юра ўзнает, што ў стране сушчэствует какая-та апазіцыя, каторая борэцца з какой-та там дзіктатурай. Сам таго ня зная, глаўны герой пападает у самую гушчу паліцічэскіх інтрыг...

**Усім, хто жадае набыць фільм на відэакасэце, просьба зьвяртацца праз нашыя кантакты:**

**Адрас: 220134, Менск, п/с 33**
**E-mail: maryska@tut.by**

**СЬПЯШАЙЦЕСЯ!**




### УВАГА!

**30 чэрвеня** адбудзецца футбольны матч на кубак Беларускай лігі «Лямбда» між жаночымі аматарскімі камандамі. Месца правядзеньня – стадыён каля Камсамольскага возера (з боку трамвайных рэек).

**Пачатак а 19:00**

STAR WARS

# Шпаргалка для Ўсамы

Ні для каго не сакрэт, што бэн Ладэн тупы і заземлены лахар-бедуін. Зьмеем-спакусьнікам, які падштурхоўвае ісламскага Бармалея на цёмныя дзялішкі насамрэч зьяўляецца Галівуд. Спілбэргі і Кэмэруны прыдумляюць усялякія фантастычныя хады і спэцэфэкты, каб заманіць у залю гледача. Для бэн Ладэна сюжэты блокбастэраў – кіраўніцтва да дзеяньня, вырыянт як можна пакараць няверных гяураў. Напрыклад, сюжэт «Крэпкага арэшка» або «Independence Day» лёг у аснову пляна атакі на хмарачосы Нью-Ёрку 11 верасьня.
Чарговы пакет know-how як заваліць Амэрыку сусьветнаму тэрарызму падкінуў рэжысэр Джордж Лукас з новым эпізодам зоркавых войнаў «Star Wars». Сэрыя называецца «Атака клонаў» і працягвае сагу пра працоўную дынастыю джыдаяў Скайуокераў, якая пад уплывам асабістых комплексаў, то абараняе касьмічную рэспубліку, то наадварот, яе пярдоліць. Пяты эпізод акурат прысьвечаны таму, як Сусьветная фэдэрацыя падае пад козьнямі змовы касьмічных тэрарыстаў. Гледзячы апошнюю сэрыю эпапеі ня цяжка ўявіць, якія крокі бліжэйшым часам зробіць тэрарыст нумар адзін у паходзе супраць сатанінскай Амэрыкі, падражаючы кінагероям «Зорных войнаў» – ворагам касьмічнай рэспублікі (гл. малюнкі). А што будзе рабіць бэн Ладэн пасьля, мы і ён даведаемся з новай сэрыі Лукаса якая выйдзе на экраны праз два гады. Вось тады ЗША і прыйдзе капец ●

**Чубака**




Бэн Ладэн справакуе нейкую вайну на пэрыфэрыі, каб падыгрываць цёмным інстынктам амэрыканскага лідэра.




Бэн Ладэн прафінансуе генэтычныя лябараторыі на стварэньне арміі салдат-клонаў быццам бы ў дапамогу антытэрарыстычнай кааліцыі. На самой справе гэтыя клоны будуць падпарадкоўвацца толькі Усаме.




Бэн Ладэн пачне падкупаць дэпутатаў усіх узроўняў і нацкоўваць адзін на аднога. Гэта павінна выклікаць у людзей стомленасьць дэмакратыяй і інтарэс да больш эфэктыўных сродкаў грамадзкага ладу – дыктатуры.

*Нэкрарэалістычны рэпартаж*

# Мёртвыя не кусаюцца

*«Жыцьцё такое кароткае, а ты яшчэ недастаткова сур'ёзная».*
*Карлсан*
*(А. Ліндгрэн «Тры аповесьці пра Малога й Карлсана»)*

Мы зайшлі ў цёмны-цёмны пакой, дзе стаялі чорныя-чорныя крэслы й чорны-чорны раяль. Сама сабой напрошвалася мэлёдыя «Пахавальнага маршу» Шапэна. Гэта зусім не пачатак банальнай піянэрлягерскай страшылкі. Гэта POST MORTEM – нэкрарэалістычны праект менскага мастака Сяргея Ждановіча, чыя прэзэнтацыя адбылася на гэтым тыдні ў галерэі ЭГУ.
Аўтар зайшоў ціха-ціха. Амаль непрыкметна, як цень бацькі Гамлета. Як вы ўжо ўсе здагадаліся, ён быў апрануты ў чорную кашулю й такога ж колеру нагавіцы. Ягоныя пантофлі й шкарпэткі я не разглядзеў, бо пачалася імпрэза.
У цьвінтарнай цішыні залі прагучалі гукі раялю. Праўда, Сяргей Ждановіч ня стаў абцяжарваць сябе выкананьнем Шапэна (які быў бы дарэчны), абмежаваўшыся літаральна трыма нотамі. Яно й правільна – гэта ўсё ж хэпэнінг, а не іспыт у музычнай школе. Гукі атрымаліся вельмі пранізьлівымі. Менавіта пра такія доктар Ватсан казаў, што гэта кошка засела ў коміне. Аўтар адышоў ад раялю, а трывожныя гукі, зараз больш падобныя на енк малюткі-прывіда з Вазастану, засталіся. «Во гэта нэкрарэалізм! – падумалася мне. – Нават раяль заклініла».
Аднекуль па памяшканьні разносіўся пах ладану. Змрочную й шматзначную атмасфэру залі час ад часу парушалі толькі гаўнюкі, якія заўсёды спазьняюцца й любяць пагрукаць дзьвярыма. Але Творцу гэта не перашкодзіла. Ён узяў ліст паперы й ціхім голасам, ледзьве не з апошніх сілаў пачаў чытаць тэксты. Усе цытаты былі пра СЬМЕРЦЬ. Нейкаму калхазану гэта магло нагадаць урыўкі зь любімай кніжкі школьных выдатніц «Жемчужные мысли» (М., 1988), але на самой справе вуснамі Мастака прамаўлялі Сяргей Курохін, Віктар Пялевін, Міларад Павіч, Мілан Кундэра, Жорж Батай, Марыс Бланшо, Антанэн Арто й, ніколі не здагадаецеся, – Леанарда да Вінчы.
Скончыўшы цытаваньне аднаго, Крэатар моўчкі (пад таямнічыя гукі раялю) вешаў на сьцяну фатакартку ягонай пасьмяротнай маскі (Павічу, Кундэры й Пялевіну можна толькі пазайздросьціць – цяпер можна сьмела паміраць безь мітусьні, пасьмяротная маска ўжо гатовая). Гэты рытуал быў выкананы восем разоў.
Потым пад аплядысмэнты залі Пэрфаматар выйшаў з пакою. Верагодна, насустрач СЬМЕРЦІ. У залі запалілі сьвятло й нарэшце вырубілі магнітафон, схаваны ў раялі ●

**К. Бясьсьмертны**




**P. S.** Спусьціўшыся па прыступках на першы паверх ЭГУ, я сутыкнуўся зь мітрапалітам Філарэтам. Ён хуценька заскокваў у свой мэрсэдэс. Дык вось ад каго несла ладанам!

# *Румба супраць суіцыду*



***Прысьвячаецца дзяўчыне Вользе, якая правяла мяне да музыкі.***

У мінулую пятніцу, знаходзячыся ў чорнай мэлянхоліі з нагоды чарговага няўдалага каханьня, я цягнуўся па змрочных вуліцах Менску ў пошуках зацішнага месца, каб спаганіць яго брутальным самагубствам. На ўсім шляху мне сустракаліся мінакі з сумнымі тварамі і рыдаючыя непрыгожыя дзяўчыны. Агульныя дэпрэсія і апатыя нібы авалодалі ўсім горадам.
Якім жа было маё зьдзіўленьне, калі побач з кінатэатрам «Піянэр» я ўбачыў узбуджаны натоўп, які пасіянарна імкнуўся праціснуцца ўнутр. У спадзяваньні на «сындром Нямігі» і сьмерць у потных абдымках чалавечай біямасы, я пралез у сярэдзіну, і нават не заўважыў, як нейкая загадкавая незнаёмка сунула мне ў руку запрашэньне, і я апынуўся на Сьвяце музыкі. Сьвята ладзіла Француская амбасада. У французаў ня лічыцца за западло штогод у дзень летняга сонцастаяньня зьбіраць зграю хцівых халяўшчыкаў і пад гукі музыкі паіць і карміць іх на дармаўшчынку. І на гэты раз праставон быў на вышыні: круасаны, салат Аліўе, мяса па-Дэголеўску і Бургундзкае віно ўраджаю 1812 году.
На сцэне кіназалі бляяў сваё «Шчон дзе лізэ» манмартрскі шансаньe Андрэ Дзюма (хай бы лепш ішоў дапісваць трэці том «Графа Монтэ-Крыста»), нешта скавытала «маладая надзея беларускай эстрады» з прэтэнцыёзнай мянушкай Карыяна, пыжылася напышлівым джазам ЯБЛЫЧНАЯ ГАРБАТА. А я разам зь некалькімі сапраўднымі знаўцамі музыкі прыліп да вялікага экрану ў фае, на якім галава Менскага «Кінаклюбу» Жбанкоў трансьляваў фільм Віма Вэндэрса «Buena Vista Social Club». За гэты фільм я нават даравау спадару Жбанкову тое, што на працягу ўсёй вечарыны ён бессаромна падпойваў па цёмных завугольлях парлямэнцкага карэспандэнта нашага выданьня Моніку Навінскі (пэўна, на тую справу ў кінапрапаведніка пайшла не адна каністра чарнідлаў).
Buena Vista Social Club – гэта банда кубінскіх старых (за 60 і нават за 70 гадоў), якую сабраў вядомы фолк-рокдзеяч Рэй Кудэр. Дзяды і бабулькі пачыналі лабаць у 40-я гады, калі Куба была яшчэ ня Востравам Свабоды, а адным вялікім кабаком і бардэлем для ўсіх касмапалітаў і свінгераў сусьвету. Можаце ўявіць сабе, што яны вытвараюць на сцэне! Салсы, румбы ды мэлонгі працоўных кварталаў Габаны так мяне ўзрушылі, што я забыўся на суіцыд і кінуўся ў скокі.
Пакідаў я Сьвята Музыкі ў прыўзьнятым настроі сьпяваючы партыю кантрабасу «пум-пум-пум-пум» (ці «бдым-бдым-бдым-бдым»?). Усё было добра, не зразумеў я толькі адно: пры чым тут французы? ●

**Лёша Чыканас**

*НапОі*

## Рыцарскае

Калі Сяргей Балахонаў на старонках *Нашай Нівы* ўсё яшчэ шукае магічны напой старажытных беларусаў зь містычнай папараць-кветкі, чарадзеі і альхімікі з г.п. Падсьвільле Глыбоцкага раёну Віцебскай вобласьці ўжо згатавалі нэктар для нашых Астэрыксаў і Абэліксаў. Віно пладовае асаблівае моцнае РЫЦАРСКАЕ было створанае падсьвільскімі майстрамі спэцыяльна для рыцарскага фэсту ў Навагарадку. 18 абаротаў гарантуюць вокамгненны прыліў мужнасьці і гатоўнасьці рвацца ў бой. Адсутнасьць хімічных дадаткаў і прысмак яблычнай цьвілі – надзейная прыкмета натуральнага прадукту, які пілі нашыя ваяўнічыя продкі перад Грунвальдзкай бітвай. Тыя, праўда, хто злоўжываў «Рыцарскім», пачас бітвы няцьвёрда трымаліся ў сядле і зваліліся ў крыжацкія пасткі. Таму ня раім ужываць больш за адну пляшку на 1,5 асобы за 0,5 гадзіны – такі тэмп аптымальны, вы атрымаеце адпаведную дозу рыцарскага духу, ня зваліцеся з багатырскага каня і вас не замятуць плямістыя крыжакі.

# 120 год салодкай парачцы беларускай літаратуры Янку Купалу і Якубу Коласу

Сінявокая Беларусь сьвяткуе 120-ы бёзьнік Янкі Купалы і Якуба Коласа. Праграма сьвяткаваньня юбілею любімых клясыкаў досыць маштабная: канцэрты, плэнэры, адкрыцьці манумэнтаў, фуршэты для ласай на халяву інтэлігенцыі і, натуральна, шумныя бескампрамісныя канфэрэнцыі літаратуразнаўцаў. На гэты раз купала- і коласазнаўцам прыйдзецца адказаць на вераломнае пытаньне, якое апошнім часам дастае інтэлігенцыю ня меней чым прыступы скаліёзу: «Зь якіх крыніцаў чэрпалі аўтары «Кургану» і «Новай зямлі» свае графаманскія флюіды. Што за муха Цэцэ ўкусіла Купалу неяк зранку ня йсьці на службу пісара ў судовага сьледчага ў Радашковічах, а ўзяцца за паркер і ашалела ляпіць бесьсьмяротныя мэтаніміі, сынэгдахі і гіпэрбалы: «А хто там ідзе, а хто там ідзе у агромністай такой грамадзе»? Чаму Якуб Колас замест таго, каб як усе сельскія пэдагогі клеіць вясковых кабетаў або дапамагаць аднасяльчанам запаўняць анкеты на рабочую візу ў Канаду або Аргентыну, крапаў народны эпас «На простынях» або выводзіў на дасугу «Мой родны кут як ты мне мілы, забыць цябе не маю сілы»? На гэтае пытаньне савецкае літаратуразнаўства адказвала проста і тупа: творча асвойваць рэчаіснасьць аўтара штурхаў піпл, зь якімі беларускія скальды былі гэтак жа цесна павязаныя, як пара сусьветнавядомых бурундукоў Чып і Дэйл.

У эпоху трыюмфу постмадэрнізму і суб'ектывізму такія вэрсіі вытокаў творчасьці выглядаюць сьмешнымі і нават рэакцыйнымі. Сучасная тэорыя аўтара абапіраецца на правакацыйныя тэзысы гішпанскага філёзафа Артэга-і-Гасэта, Фрыдрыха фон Ніцшэ ды іншых ірацыяналістаў. Названыя арыстакраты духу сьцьвярджалі, што геній і плебс не сумяшчальныя. Дысалюцыя ў народнай масе, заклапочанай праблемамі таннай выпіўкі, небясьпечнага сэксу, дробнай халявы і відамі на ўраджай бульбы вядзе да поўнай дэградацыі протагеніяльнай асобы. Заратуштра, зазямліўшыся на пабытовых пытаньнях, становіцца ня здольны мысьліць высокімі катэгорямі. Наадварот, геній сьвядома або несьвядома павінен трымаць дыстанцыю ад натоўпу шэрых големаў. У гэтым яму можа дапамагчы нейкае багемнае вычварэнства, або парушэньні ў мэханізме мэнтальнай рэакцыі на навакольны сьвет, прасьцей кажучы, шыза. Толькі так бард можа падмануць і пакрыць Музу.

Калі так, трэба задумацца дзе ж зарытыя крыніцы таленту Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Калі верыць афіцыйным біяграфіям, яны былі звышарыгінальнымі банальнасьцямі. Янка Купала працаваў пісарам, настаўнікам, памочнікам вінакура, бібліятэкарам, народным паэтам, самагубцам. Ніводнага намёку на дэвіяцыю. Біяграфія Коласа ня менш плоская: нарадзіўся, служыў лесьніком, прыподам, віцэ-прэзыдэнтам АН БССР, памёр. Жыцьцёвы шлях ня Зыгфрыда, а нейкай «аднамернай асобы». Узьнікае пытаньне, як жа нашыя клясыкі пісалі, калі адпаведна біяграфіям яны не шыраліся, не стаялі на ўліку псыхіатараў, не бухалі абсэнт? Відавочна, мы ня ведаем усёй праўды аб нашых песьнярах. Відавочна, славутыя песьняры вялі нейкае паралельнае жыцьцё, пра якое нам застаецца толькі здагадвацца. Калі выходзіць з найбольш папулярных постмадэрнісцкіх тэорыяў. Купала і Колас павінны былі натхняцца на творчасьць прыкладна наступнымі рэчамі.



Магчыма, яны тайна займаліся мужалоствам, як Оскар Уайлд і Жан Жэнэ. У пошуках партнэраў яны паклалі вока на сяброў літаратурнай групоўкі «Маладняк».



Магчыма, яны не прасыхалі з ранку да ночы, як Венечка Ерафееў або Эрых Марыя Рэмарк. Аднойчы Саюз пісьменьнікаў БССР пастанавіў зашыць ім капсулы. Тым жа вечарам у парыве абсцынэнтнага сындрому яны выгрызьлі адзін адному капсулы зь мясам і нажэрліся да галюнікаў.




Магчыма, яны былі прыхільнікамі чалавеканенавісьніцкай тэорыі фашызму, як модныя французскія літаратары Луі-Фэрдынанд Сэлін і Поль Моран, амэрыканец Эзра Паўнд. Яны тырылі ў ленінскай бібліятэцы кнігі прагрэсіўных пісьменьнікаў сэміцкага паходжаньня - Л.Талстога (Лео Гросман) і Бічэр-Стоў (Клара Цэткіндт) і палілі іх на задворках Дому літаратара.



Магчыма, яны стварылі сваю дэструктыўную масонскую ложу-сэкту адэптаў сахі і касы, як Алістэр Кроўлі і Рон Хабард. На сваіх оргіях яны, прысвоіўшы сабе тытулы вярхоўных магістраў Гіпэрбарэі, практыкавалі рытуальныя забойствы сельскіх настаўнікаў і гусьляроў. Пад выглядам атэістаў-бязбожнікаў любілі прысутнічаць на разбурэньнях праваслаўных храмаў.



Магчыма, яны былі лятэнтнымі садамазахістамі, як Маркіз дэ Сад і Захер Мазох, эстэтычна зьбіваючы сваіх жонак і сваякоў. А потым прасілі біндзюжнікаў і ізвозчыкаў, каб тыя зьбівалі іх пугамі, даводзячы да стану літаратурнага натхненьня.



Магчыма, яны наведвалі курыльню опію ў Вязынцы, як Бадлер і Уільям Бэроўз. Свае творы пісалі ў стане прыходу, нажраўшыся да ўсрачкі канапельнага малачка.



Магчыма, яны займаліся паляваньнем і мэтадычна вынішчылі беларускі жывёльны сьвет, як Эрнэст Хэмінгуэй і Арцюр Рэмбо. Скончылася гэта тым, што яны забілі апошняга зубра ў Белавескай пушчы. У гэты момант Якубу Коласу прыйшла ідэя-фікс змайстрачыць аповесьць «На прасторах жыцьця».



Магчыма, яны хварэлі на эпілепсію, як Марсэль Пруст і Гюстаў Флабэр. Верш «Маладая Беларусь» быў надыктаваны Купалам зь пенай на вуснах падчас чарговага прыступу на літаратурнай вечарыне ў клюбе «Чырвоных мукамолаў» у Жабінцы.